№ 135 (487)

Чацвер, 30 ліпеня 1998 г.

Выдаецца
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.






# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

**Надвор'е**

30 і 31 ліпеня на тэрыторыі рэспублікі захаваецца пераменная воблачнасць, 30-га па крайнім усходзе рэспублікі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы; 31-га — пераважна без ападкаў. Вецер няўстойлівы, слабы, парывы да 12 м/с. Тэмпература паветра 30-га ўначы +10...+14, удзень +21...+26, 31-га ўначы +12...+17, удзень +23...+28.



**Пратэст**

## Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусь прыняла 27 ліпеня 1990 года. А праз восем год адбывалася вось што...

*Акцыю, прымеркаваную да святкавання скасаванага так званым лістападаўскім (1996 г.) рэферэндумам Дня Незалежнасці Рэспублікі Беларусь, правялі 27 ліпеня 1998 года ў Мінску прадстаўнікі аб'яднанай апазіцыі.*




Прыкладна тры тысячы чалавек сабраліся а 18-й гадзіне каля кінатэатра "Кастрычнік" і праз плошчу Якуба Коласа, плошчу Перамогі і вуліцу Кісялёва прайшлі да Опернага тэатра, дзе і адбыўся мітынг. На працягу руху калоны сутычак з праваахоўнымі органамі не назіралася, і толькі ў раёне плошчы Якуба Коласа адбыўся адзін інцыдэнт. Некалькі юных прадстаўнікоў беларускіх неафашыстаў вырашылі ці то прадэманстраваць свой круты нораў, ці то проста сапсаваць людзям настрой, урэзаліся ў калону і пачалі чапляцца да дэманстрантаў. Адбылася бойка, у выніку якой двух маладых людзей, крычаўшых "Хайль Гітлер!", пасадзілі ў міліцэйскі варанок.

Мітынг адкрываў віцэ-спікер Вярхоўнага Савета 13-га склікання Генадзь Карпенка, які павіншаваў усіх з Днём прыняцця Дэкларацыі аб незалежнасці. Усе выступоўцы — а гэта і старшыня сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная Грамада" Мікалай Статкевіч, і дэпутаты Сяргей Антончык, Валерый Шчукін, Анатоль Лябедзька, і намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка, і выконваючы абавязкі сустаршыні "Маладога фронту" Аляксей Янукевіч — звярталі ўвагу на неабходнасць аб'яднання апазіцыі ў змаганні за ўсталяванне сапраўднай незалежнасці, за вызваленне ўсіх палітвязняў, гаварылі аб сваёй адказнасці за будучыню Беларусі.




Напрыканцы ўдзельнікамі акцыі была прынята рэзалюцыя, ў якой гаварылася: "Мы, удзельнікі акцыі 27 ліпеня 1998 года, рашуча асуджаем усе крокі існуючага рэжыму, накіраваныя на інкарпарацыю Беларусі ў склад Расійскай Федэрацыі, і заяўляем аб юрыдычнай нікчэмнасці любых актаў гэтага рэжыму, якія абмяжоўваюць яе суверэнітэт".

Па звестках Управы БНФ, затрыманых 27 ліпеня 1998 года не было.

**Вольга АНЦЫПОВІЧ.**

*На фотаздымках: шэсце па праспекце Скарыны; удзельнікі Хартыі-97 выйшлі на дэманстрацыю ў майках з надпісам "Дыктатуры капец"; моладзь — за Незалежнасць.*

*Фота Юрыя ДЗЯДЗІНКІНА.*

**Слышали?**

## Президентскую невестку зовут Лилия

Сразу три события почти одновременно произошли в жизни Виктора Лукашенко — старшего сына президента Республики Беларусь. Во-первых, президентский первенец окончил факультет международных отношений Белорусского государственного университета; во-вторых, получил распределение на работу в Министерство иностранных дел; в-третьих, а может, это надо назвать во-первых, Виктор женился. 25 июля в одном из районных загсов Минска состоялась официальная церемония бракосочетания.

Выходец из простой семьи, Виктор Лукашенко женился на такой же простой девушке. Ее папа — рабочий, мама — фельдшер. Витя и Лиля уже давно и прекрасно знают друг друга, ибо их родители долгое время жили на одной улице в деревне Рыжковичи Шкловского района.

К этому времени Лиля закончила два курса исторического факультета Минского педагогического университета имени Максима Танка. В перспективе она, если будет желание, сможет преподавать историю и иностранный язык в какой-нибудь школе.

Свой медовый месяц молодожены проводят не на каких-нибудь Канарах, а по месту своего рождения рядом с мамой Виктора Галиной Родионовной Лукашенко. Кстати, здесь же находится сейчас и еще один Лукашенко. Но не Александр Григорьевич, а Дмитрий Александрович, младший сын президента, который, как и его старший брат, мечтает стать профессиональным дипломатом. И, видимо, им станет, поскольку за плечами у младшего уже первый курс того же факультета международных отношений.

Злые языки связывают женитьбу Виктора с желанием поработать за рубежом. С советских времен повелось, что неженатым дипломатам выезд за границу СССР был, как правило, запрещен. Власти очень опасались, что неженатые молодые люди не устоят против искушения в какой-нибудь "загнивающей" стране. Эти традиции, увы, перенесены и на нашу реальность. К примеру, Валерий Цепкало, будучи холостяком, вполне подходил на роль первого заместителя министра иностранных дел. А вот перед отъездом в Соединенные Штаты в должности посла он женился. Наверное, это совпадение. Как, я думаю, и у Виктора Лукашенко.

**Владимир ГЛОД.**

**Из первых уст**

## Мингорсовет выступил против президентского проекта избирательного закона

Депутаты Мингорсовета на очередной пресс-конференции выразили обеспокоенность концепцией закона "О выборах депутатов местных советов". По их мнению, такой нормативный акт ставит крест даже на тех остатках самоуправления, которые за четыре года нахождения у власти нынешнего главы государства еще как-то сохранились.

Разработчики из Администрации президента при подготовке законопроекта, как обычно, в Конституцию не заглядывали. И потому в документе имеется много нарушений Основного Закона. Вот только некоторые из них:

- общественные объединения лишаются права выдвижения кандидатов в депутаты (статья 10 проекта);
- сокращаются сроки полномочий Советов (статья 14 проекта);
- отменяется равенство избирателей в каждом избирательном округе в Советах одного уровня (статья 15 проекта);
- отдается на откуп президентской "вертикали" проведение выборов;
- ограничивается избирательное право граждан по сбору подписей за своего кандидата (статья 36 проекта);
- устанавливаются практически неограниченные возможности для власти по снятию в течение избирательной кампании неугодного кандидата (статья 38 и 49 проекта);
- создаются возможности для фальсификации результатов голосования (статья 54 проекта);

Со своими предложениями Мингорсовет намерен обратиться в оба парламента страны — в признаваемый Европой Верховный Совет 13-го созыва и поддерживаемую государственной Думой России президентскую нижнюю палату.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

**Рэаліі**

## Класная медыцына даступна нямногім

Адным з фактараў рэзка ўзросшай у краіне смяротнасці быў і застаецца дрэнны стан айчыннай медыцыны. У прыватнасці, на Віцебшчыне на ўсю вобласць ёсць толькі адзін сучасны камп'ютэрны тамограф, які дазваляе своечасова вызначаць дыягназ складаных захворванняў. Для буйнога Полацкага раёна выдзяляецца на тыдзень толькі два месцы для абследавання хворых. Яшчэ складаней простаму чалавеку трапіць да ўрача на ядзерна-магнітны рэзанатар, з дапамогай якога можна дасканала разабрацца ў працэсах, якія адбываюцца пры захворваннях галаўнога мозга. Пры такой тэхнічнай аснашчанасці многім хворым застаецца спадзявацца толькі на Бога. Штодзень у рэгіёне памірае ў сярэднім 59 грамадзян, а вось нараджаецца толькі каля трыццаці немаўлят.

**Уладзімір ШЫК.**

## Паганка бледная, а вынік — чорны

Двух дзяцей 8 і 11 гадоў і іх дзядулю, якія атруціліся грыбамі, не ўдалося выратаваць рэаніматарам Віцебска.

Дзеці збіралі лясныя дары. На вячэру іх гатавала бабуля, у якой не вельмі добры зрок. І ў выніку сем чалавек, чацвёра з якіх дзеці, апынуліся ў бальніцы.

Спецыялісты дзіцячага аддзялення рэанімацыі Віцебскай абласной дзіцячай бальніцы звярнуліся да аматараў грыбоў з перасцярогай. Сёлета, на думку ўрачоў, надзвычай складана распазнаць бледную паганку, якая хутчэй за ўсё і забрала тры жыцці. Звычайна яе адрозніваюць ад белай сыраежкі па "паяску", але гэтым летам ён часта аказваецца прыбітым дажджом або ападае ў кошыку. Вядома, што таксіны захоўваюцца ў белай паганцы нават пры самай доўгай варцы, а скрыты перыяд атручвання працягваецца амаль 36 гадзін. Вось чаму выратаваць чалавека бывае немагчыма.

**Віцебск.**
**Вольга СІДАРОВІЧ,**
**БелТА.**

## О главной "арии" "Славянского базара"

### "Расколоть" Крутого так и не удалось

На "Славянском базаре в Витебске" все громче звучит великодержавная "опера" "Вместе с Россией". Показательным аккордом в этом плане стал концерт мастеров искусств Российской Федерации. Главным "докладчиком" выступил популярный певец Газманов. Он закатил хотя и краткую, но взволнованную речь о единстве, о том, что "никакими границами нас не разделить". Этой же теме была посвящена и его песня. На подмогу артисту на сцену вывалила вся бригада российских "музыкальных докладчиков" и усердно выводила песню о том, что мы должны быть вместе.

Честно говоря, ждать чего-то другого от россиян и не стоило.

Даже Лужков на пресс-конференции в Витебске упрекал российское руководство в великодержавности за то, что оно, принимая те или иные решения в рамках Союза, не советуется с Лукашенко.

Трудно понять наших белорусских артистов и журналистов, которые охотно подпевают российским "ястребам". Похоже, для них тема о том, как побыстрее втянуть родную страну в империю, в рабство, — одна из самых любимых. Эту холуйскую преданность старательно показывал молодой корреспондент Егор Хрусталев. Видимо, очень хотел понравиться "батьке". Он с этой темой так приставал к известному композитору Крутому, что просто неприятно было смотреть и слушать. "Подъезжал" к нему и с одной стороны, и с другой, убеждая, что, дескать, мы — славянские народы — должны быть вместе и "Славянский базар" вроде как способствует этому.

Но композитор Крутой держался с достоинством. Он ловко уходил от политических вопросов и оставался великим композитором и великим человеком. Я уже было начал задумываться: а почему? Почему москвич и не подпевает любимой российской теме? Ответ услышал в очередном вопросе Хрусталева, который не терял надежды "расколоть" известного человека. "Вот вы родились на Украине, работаете в Москве, а теперь вот здесь в Витебске"... — сыпал корреспондент словами, позаимствованными у ведущих. Но Крутой достойно рассказывал о музыке, фестивале и деревушке, где он родился, и не "клевал" на политическую наживку.

Спасибо тебе, композитор Крутой, за твои песни и твои рассуждения о музыке.

**Алесь ДРАБЧУК.**

**Чулі?**

## Заява ўдзельнікаў II з'езда беларусаў Балтыйскага рэгіёна

Як ужо паведамляў БелаПАН, у мінулыя выхадныя ў Вільнюсе прайшоў II з'езд беларусаў Балтыйскага рэгіёна. Паводле звестак Балтыйскай службы навін (BNS), асноўную ўвагу ўдзельнікі з'езда надалі ўнутраным праблемам Беларусі.

"Галоўным пытаннем былі не дасягненні і праблемы беларусаў Балтыі ў кантэксце інтэграцыі ў мясцовае таварыства, а праблемы Беларусі", — сказаў старшыня таварыства беларускай культуры ў Літве Хведар Нюнька на прайшоўшай 27 ліпеня прэс-канферэнцыі. Па яго словах, у з'ездзе прынялі ўдзел 112 дэлегатаў з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Польшчы, Калінінграда і Санкт-Пецярбурга. Яны прынялі віншаванне да Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь, заяву аб "антыбеларускай дзейнасці рэжыму А.Лукашэнкі" і зварот да беларусаў Балтыйскага рэгіёна.

У прэс-канферэнцыі, як паведамляе BNS, удзельнічалі старшыня Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк, прадстаўнікі Аб'яднання беларусаў свету і беларускай дыяспары Балтыйскіх краін.

**BNS — БелаПАН.**



*Отшумел "Славянский базар в Витебске". Михаил Финберг доволен молодой сменой*

**Отовсюду**

*ЛИТВА*

### Премьер прогнозирует в текущем году восьмипроцентный рост валового внутреннего продукта республики

Премьер-министр Литвы Гедиминас Вагнорюс прогнозирует в текущем году 8-процентный рост валового внутреннего продукта (ВВП) и 5—6-процентный рост промышленного производства в республике.

Глава правительства отметил на пресс-конференции, что темпы экономического развития республики в этом году превышают прошлогодние.

"Статистические данные свидетельствуют, — сказал он, — что рост экономических и социальных показателей в 1997 году не был кратковременным и случайным, а приобрел характер долговременной тенденции".

Говоря об инфляции, Г.Вагнорюс заявил, что, по прогнозам правительства, в июле она составит 0,2%. При этом уровень годовой инфляции — с июля 1997 года по июль нынешнего года — составит менее 6%. "Это один из лучших показателей среди государств Центральной и Восточной Европы", — сказал премьер.

*РОССИЙСКАЯ ФЕДЕРАЦИЯ*

### Конец отпуска Борис Ельцин, вероятно, проведет в Новгородской области

Президент Борис Ельцин продолжает отдых в Шуйской Чупе (Карелия, северо-запад РФ).

Между тем по данным, которые "Интерфаксу" сообщили в администрации Новгородской области, в первых числах августа Б.Ельцин намерен покинуть Шуйскую Чупу и выехать на Валдай в Новгородскую область, где проведет оставшийся отпуск.

В пресс-службе областной администрации "ИФ" также сказали, что окончательной информации о дате приезда Б.Ельцина еще нет, однако резиденция президента на Валдае вблизи озера Ужин "уже готова к приему высокопоставленного гостя".

По данным пресс-службы, озеро Ужин, достигающее в длину 16 километров, входит в цепь Валдайских озер, насчитывающих в общей сложности около 100 водоемов. Самое большое и глубокое из них — Валдайское озеро, глубина которого достигает 60 метров. Неподалеку находится Иверский монастырь, построенный в 1661 году.

По свидетельству "заядлых рыбаков", заметил собеседник "ИФ", в озерах Ужин и Валдайском водится "несметное количество рыбы — щук, налимов, сомов, язей, линей, судаков, до сих пор сохранились раки".

Как напомнили в пресс-службе, сама Валдайская возвышенность является "уникальным местом, где проходит водораздел рек трех морей — Балтийского, Каспийского и Черного".

Правительственная дача, где будет отдыхать Б.Ельцин, находится около деревни Долгие Бороды. В советское время она предназначалась для отдыха высших государственных чиновников. Так, по архивным данным, здесь отдыхали Никита Хрущев и Николай Рыжков.

### Черномырдин убежден, что будет следующим президентом России

Экс-премьер России Виктор Черномырдин убежден, что в 2000 году станет следующим президентом России. В программе "Обозреватель" "ТВ-6", отвечая на вопрос, станет ли он следующим президентом, В.Черномырдин лаконично и уверенно заявил: "Буду".

Отвечая на вопрос, будет ли, по его мнению, нынешний президент Борис Ельцин в 2000 году баллотироваться на третий срок, экс-премьер напомнил, что на днях Б.Ельцин на встрече с парламентариями в очередной раз заявил, что не намерен выдвигать свою кандидатуру.

"У меня нет оснований нашему президенту не доверять", — сказал В.Черномырдин.

*УКРАИНА*

### Леонид Кучма требует от правительства конструктивной работы с МВФ для получения кредита EFF

Президент Леонид Кучма потребовал от правительства "четкого выяснения и окончательной подготовки" всех вопросов, связанных с получением кредита расширенного финансирования (EFF) Международного валютного фонда.

На заседании правительства Л.Кучма подчеркнул, что подготовка программы EFF "имеет чрезвычайно большое значение" для Украины. "Мы никогда так остро не нуждались во внешнем финансировании, как сейчас, перед угрозой развернутого финансового кризиса", — сказал он.

Л.Кучма подчеркнул, что после его бесед с вице-президентом США Альбертом Гором, руководителями Всемирного банка и МВФ можно говорить "об обнадеживающих результатах" предоставления кредита.

Как ожидается, работающая в настоящее время в Киеве миссия МВФ должна предложить Совету директоров окончательный вывод о целесообразности предоставления Украине около 2,5 миллиарда долларов в течение трех лет.

*ЭСТОНИЯ*

### Премьер не считает, что экономика страны находится в кризисе или состоянии спада

Премьер-министр Март Сииманн отверг высказывания ряда видных политиков и экономистов о том, что экономика страны находится в состоянии кризиса или спада.

Выступая на собрании уполномоченных Конгресса сельского народа, он отметил, что в июне в Эстонии уровень безработицы сократился на 10% по сравнению с аналогичным периодом прошлого года. Выпуск промышленной продукции вырос за этот же период на 7,6%, в инвестиции направлено около 30% от валового внутреннего продукта.

"Это наполовину больше, чем среднемировой показатель", — подчеркнул глава правительства. По его мнению, для такого государства, как Эстония, где нет достаточного потенциала и ресурсов, вполне приемлем прирост в 8%, в то время как в прошлом году он составил 10%.

М.Сииманн не согласен также с позицией ряда специалистов и руководителей банков о дефиците финансовых ресурсов, что мешает развитию производства. По его данным, кредитный портфель банков вырос за год на 50%, "что является рекордным международным показателем".

Он отметил также, что недавний крах эстонского банка "Ээсти Маапанк", обслуживавшего аграрный сектор страны, не может стать причиной кризиса, так как его балансовый объем составлял всего 2,6% от сводного баланса кредитных учреждений страны.

В то же время М.Сииманн подтвердил, что экономическая ситуация несколько изменилась, но она изменилась для тех, кто рассчитывал зарабатывать на бирже легкие деньги, сказал премьер-министр. "Я не понимаю тех, кто говорит о кризисе или банкротстве нашей экономики", — заявил он.

## Ураган, які пранёсся над сталіцай, забраў жыццё аднаго чалавека

Супрацоўнікі штаба грамадзянскай абароны беларускай сталіцы падлічваюць урон ад моцнага ліўня і ўрагану, які пранёсся над горадам у мінулую пятніцу. У першай палове дня 27 ліпеня ў штабе пацвердзілі інфармацыю толькі аб адной чалавечай ахвяры — пад кавалкамі сарванага даху загінула жанчына.

Дробныя пашкоджанні атрымалі дзесяткі пабудоў. У Савецкім раёне Мінска парывы ветру абрушылі балкон жылога дома. На вуліцы Кузьмы Чорнага паваленае дрэва ледзь не "накрыла" аўтафургон і легкавую машыну "Мерседэс". Дарожна-транспартныя здарэнні, звязаныя з непагаддзю, зафіксаваны на праспектах Машэрава, Пушкіна і іншых гарадскіх магістралях. Моцны вецер падняў у паветра на шматметровую вышыню грунтавое пакрыццё з кортаў Палаца тэніса па вуліцы Сапёраў.

Дакладная статыстычная карціна гэтага здарэння стала яснай толькі к вечару 28 ліпеня. Зрэшты, як паведамілі карэспандэнту БелТА ў Мінгарвыканкаме, большасць пашкоджанняў ўжо ліквідавана.

**Уладзіслаў ПЛАТУН,**
**БелТА.**

Прогноз-памфлет

# Кто станет первым космическим президентом?

## Великолепную идею за огромную плату предлагает Александру Лукашенко таинственный доброжелатель

Это именно тот случай, когда следует сказать: за что купила, за то и продаю. Не я придумала, а один хороший человек — таинственный доброжелатель президента. Он придумал то, до чего вряд ли додумались бы все штатные советники и помощники главы государства вместе взятые — тут необходимо богатое воображение и совершенно свободный полет мысли.

Идея, как все гениальное, предельно проста.

Почему бы Александру Лукашенко не полететь в космос?

Лишь на первый взгляд это представляется абсурдным. Между тем все предпосылки для грандиозного свершения уже наличествуют. Излагаю для уважаемой публики аргументы как сама их слышала.

Общеизвестно, что белорусский президент отличается способностью отколоть что-нибудь такое, что не по силам ни одному президенту в мире. Кто был единственным в своем роде спортсменом на зимних Олимпийских играх в Нагано? Кто был по-скандальному уникален на экономическом форуме в швейцарском городе Кран-Монтане? Кто был неповторим в передаче "Герой дня без галстука" на НТВ с искренним признанием о том, что рос среди растений и зверей?

Александр Григорьевич большой оригинал, и это признано международной общественностью. У него есть шанс окончательно войти в историю! Представьте себе, как в энциклопедии всех стран мира навечно впишут: "А.Г.Лукашенко — первый президент на планете, побывавший на околоземной орбите в 1998 году". Ведь навсегда остался в памяти человечества первый космонавт Земли Юрий Гагарин, а был он всего лишь военным летчиком в звании старшего лейтенанта.

Но никогда еще не преодолевал земного притяжения ни один верховный главнокомандующий вооруженными силами ни единого государства. А если первым стартует главком и президент Лукашенко, это явится незабываемой сенсацией космической эпохи. Да и самая пора для Александра Григорьевича, потому что безжалостное и необратимое время начало отсчитывать последний год его первого президентского срока...

Сделать это надо безотлагательно еще и потому, что вот-вот сгинет орбитальная станция "Мир". Именно сейчас к последнему вояжу туда готовится группа союзных российских космонавтов. В ее составе — и бывший секретарь Совета безопасности Российской Федерации Юрий Батурин. Так почему бы не пополнить экипаж еще одним высоким должностным лицом из союзной Беларуси? Для Лукашенко шанс взлететь в космос на российской ракете неповторим: ведь на американский "Шатл" его не пустят, потому что это территория США, а Александр Григорьевич нынче невыездной.

Помимо исторических условий, благоприятствуют свершению и политические, и экономические. Недавно сам мэр Москвы златоглавой Юрий Лужков демонстративно стал на сторону обиженного Западом белорусского президента. А сколько у Лукашенко единомышленников в Госдуме и Совете Федерации? В российском парламенте запросто можно создать мощное лобби в пользу космического проекта конца XX столетия "под Александра Григорьевича". А если еще всемогущий исполнительный секретарь СНГ, магнат Борис Березовский замолвит заветное словечко где надо? То есть с российской стороны вопрос можно считать решенным. Нет нынче там экипажа, который осмелился бы отказаться покатать всеславянского лидера.

Разве случайно полет на орбиту россияне намечали сначала на 3 августа, а потом перенесли на более поздний срок — на 11 августа? Будто специально, будто из космоса таинственный сигнал поступил, будто сама судьба вмешалась, чтобы успел натянуть скафандр и подняться на борт космического корабля бывший простой паренек из деревеньки с многообещающим названием Александрия, что на Шкловщине.

Прокатиться на станцию "Мир" и обратно стоит, конечно, немалых денег. Если оскудел источник, из которого черпали валюту на развлечения правительственной команды в Нагано, — ничего страшного. Такого рода проблемы Александр Григорьевич щелкает, как орешки. Ему, к примеру, российский премьер Сергей Кириенко говорит, что надо платить за импортный газ. Президент Беларуси отвечает, что российский газ республика будет потреблять бесплатно как гуманитарную помощь в связи с чернобыльской бедой. Если только что Международный валютный фонд отвалил Российской Федерации на поддержку пошатнувшейся экономики более 11 миллиардов долларов, так разве нельзя изъять толику кредита на то, чтобы прославить белорусского президента на веки вечные?

А сам по себе виток космической интеграции России и Беларуси? Да все так называемые ее враги будут повержены и падут ниц перед таким неоспоримым доказательством сближения. Было бы более впечатляюще, конечно, если бы вместе с Александром Лукашенко стартовал и Борис Ельцин, но это вряд ли возможно в связи с преклонным возрастом и загадочным состоянием здоровья президента России. А зловредные Европа со Штатами, надо полагать, позеленеют на Земле от бессильной ярости. "Заперли", понимаешь, Лукашенко в границах малой республики, а он — шасть в братскую ракету и из голубой дали обидчикам, образно говоря, волосатый кукиш кажет.

При этом нет практически никакой проблемы с физической подготовкой к полету нового члена космического экипажа. Белорусский президент — он же и первый хоккеист, и первый футболист, и первый теннисист, и первый лыжник. Видимо, не будет большой ошибкой сказать, что сокровенные мечты детства всюду стать первым и войти во все олимпийские сборные практически реализовались, хотя и со значительным опозданием. Видимо, не будет также большой ошибкой предположить, что его и по сей день гложет самая-самая сокровенная детская мечта: покорить и космическую стихию. Именно теперь, хотя и с приличным опозданием, в статусе президента, появилась реальная возможность достичь желаемого.

Спортсмен широчайшего профиля и неограниченных возможностей, он тренируется денно и нощно, упорно и неистово, и как результат — всегда находится в блестящей физической форме. В переносном смысле отлично кувыркается в условиях невесомости, когда реально опереться не на что, а словесно надо выкрутиться. В любом телоположении способен ораторствовать перед своими избирателями. Ему только надо показать, где именно на орбите микрофон и телекамера — и все пойдет как по маслу. Разве что в целях повышеной безопасности высокой персоны ее надо научить пользоваться в космическом корабле двумя-тремя управленческими тумблерами. И на всякий непредвиденный случай объяснить, что главное в корабле: носовая часть — это перед, а задняя часть — корма. Управляя Беларусью, Лукашенко и меньшими средствами обходится, полагаясь, главным образом, на свое знаменитое "звериное чутье".

...Теперь несколько слов о плате за эту великолепную идею. Ознакомившись с ней, лично я посоветовала автору предложить ее напрямую президенту, потому что он может заплатить так, что хватит и детям, и внукам. Однако таинственный доброжелатель питает большую любовь не только к Александру Лукашенко, но и к газете "Народная воля". Он делегировал мне полномочия по продаже идеи и через меня запросил поистине огромную плату — чтобы нашу газету наконец-то пустили тиражироваться в Белорусский дом печати. Наш общий поклонник — президента и газеты — прекрасно знает, что для Александра Григорьевича именно эта цена представляется непомерной, но на меньшую ни за что не согласен.

**Людмила МАСЛЮКОВА,**
**политический обозреватель "Народной воли"**

Знай наших!

# Белорусские нейрохирурги могут многое

**В нейрохирургическом отделе Белорусского научно-исследовательского института неврологии, нейрохирургии и физиотерапии ежегодно делается свыше тысячи(!) операций. Некоторые — единственные в своем роде, не имеющие аналогов за рубежом.**

Даже видавшие виды врачи ужаснулись. На компьютере отчетливо была видна огромных размеров доброкачественная опухоль в обоих полушариях головного мозга. Пациентке из Гомельской области исполнилось только пятнадцать лет, и шансов на то, что она доживет до своего шестнадцатилетия почти не было. Никто не брался делать девочке операцию. Но Ирине повезло. Она попала в БелНИИ неврологии, нейрохирургии и физиологии к профессору Смеяновичу.

В институте ей сделали две сложнейшие операции. Удалить опухоль сразу было просто невозможно. Учитывая то, что опухоль контактировала с черепом девочки, после операций на этом месте образовался дефект, устранить который можно было, только поставив искусственную пластинку. И с этой, казалось бы, невозможной операцией справились белорусские нейрохирурги.

В этом году Ирина закончила Минское медицинское училище и планирует поступить в медицинский институт. После всего пережитого она решила стать врачом, мечтает о том, что так же, как и хирурги НИИ неврологии, нейрохирургии и физиотерапии, будет приходить на помощь к обреченным больным. Ирина видела, каких безнадежных пациентов ставил на ноги профессор Смеянович и его коллеги.

Действительно, все случаи в институте — исключительные, сюда чаще попадают те, кому уже нигде помочь не могут. Здесь ежегодно делается свыше тысячи самых разных операций. И некоторые — единственные в своем роде.

Например, только белорусские нейрохирурги из столичного НИИ делают операцию по восстановлению функций парализованной руки. Никто в мире таких операций не делает. За последние два года профессор Смеянович и его коллеги сделали их более двадцати, причем применяя свою оригинальную методику, не имеющую аналогов за рубежом.

Больным, у которых при каких-то обстоятельствах повреждалось плечевое сплетение и рука висела как плеть, еще недавно врачи выносили страшный приговор: они останутся инвалидами на всю жизнь. Теперь же в нейрохирургическом отделе института, которым и руководит доктор Смеянович, таким пациентам берутся помочь. Мышцы спины пересаживают на руку, и после операции больной может сгибать руку в плечевом суставе. К слову, скоро по этой теме будет защищать докторскую диссертацию заведующий нейрохирургическим отделением Ричард Сидорович.

Можно приводить бесчисленные примеры того, как нейрохирурги института, врачуя телесные недуги, изменяли судьбы попавших в беду людей. Например, как молодой миловидной женщине, попавшей в автокатастрофу, "вернули лицо".

После аварии у тридцатидвухлетней Светланы был поврежден лицевой нерв. Видя в зеркале свое перекошенное лицо, она не хотела жить. Из поликлиники отчаявшуюся женщину направили на консультацию к профессору Смеяновичу. Обследовав пациентку, Арнольд Федорович решился на сложнейшую операцию. Нейрохирургам предстояло немыслимое: "сделать" заново лицо женщине из нежной мышцы бедра. Эта была первая подобная операция в Беларуси. Она длилась более семи часов, и результат был просто потрясающий. Спустя три недели Светлану выписали из института, и уже через месяц она чувствовала себя хорошо, ничто не напоминало ей о трагедии, которую пришлось пережить. Нейрохирурги института провели восемь подобных операций.

Безусловно, ученые могли бы делать значительно больше сложнейших, уникальнейших операций. Они готовы прийти на помощь ко всем обреченным больным. Но возможности нейрохирургов ограничены. И это прежде всего объясняется тем, что подобные операции — это уже микронейрохирургия. Сегодня в руках хирурга должны быть не пинцет и скальпель, а современные микроинструменты. А они в институте появились только три года назад. Такой бесценный подарок нейрохирургам столичного НИИ сделала Бобруйская фабрика художественных изделий. Для того, чтобы пополнить набор инструментария, сегодня нужны деньги. А их, как водится, всегда не хватает. Если Минздрав и выделяет средства для нужд института, то в первую очередь нейрохирурги стремятся закупить ту современную аппаратуру, которой в институте нет. В начале года, например, приобрели эндоскоп. И теперь, чтобы прооперировать больного, не надо делать мучительнейшую для пациента и тяжелейшую для хирурга операцию трепанации черепа. С помощью заморского аппарата хирург вводит в полость мозга больного трубочку и наблюдает за всем на экране монитора. Опухоль "разрубается" на мелкие кусочки ультразвуковым аспиратором и с его же помощью отсасывается из головного мозга. Уже на десятые сутки после операции больного выписывают домой. Раньше, для сравнения, реабилитационный период после удаления доброкачественной опухоли головного мозга длился почти месяц.

В НИИ неврологии, нейрохирургии и физиотерапии приезжают не только больные с опухолью головного мозга, но и пациенты, страдающие сосудистыми заболеваниями головного мозга, и те, кто в результате несчастного случая получил черепно-мозговую травму или травму периферических нервов, те, с кем случился инсульт. Здесь берутся помочь больным, у которых выявлены опухоли в спинном мозге.

— Если где-то больному сказали, что операцию делать не стоит, мы все равно не теряем надежды помочь, — говорит Арнольд Федорович Смеянович. — Отказаться всегда проще. Я считаю, что всегда надо пытаться сделать операцию. И могу привести десятки примеров, когда некоторые хирурги отказывались оперировать, а мы удаляли опухоль и пациенты поправлялись. Только в том случае, когда два полушария головного мозга поражает злокачественная опухоль, мы не идем на операцию, потому что это действительно бессмысленно.

Попасть в институт нейрохирургии несложно. Здесь оказывают помощь не только жителям столицы и Минской области. Официально институт по направлениям из местных поликлиник может принимать также пациентов из Витебской, Гродненской и Гомельской областей. А при мне профессор Смеянович подписал бумаги на госпитализацию женщине из Брестской области. Объяснил свои действия доктор очень просто: "Ей нужна срочная операция, и какая разница, что больных из Брестской и Могилевской областей должны оперировать не мы".

В нейрохирургическом отделе института работает одиннадцать хирургов. Ежедневно в плане отделения — по четыре-шесть операций, каждая из которых в своем роде уникальная. И за свои повседневные подвиги за операционным столом коллектив отделения ничего, кроме скромной зарплаты, не получает. Когда три года назад нейрохирурги провели первую операцию по восстановлению функций парализованной конечности, белорусские власти лишь поблагодарили их за открытие. И это при том, что нигде в мире таких операций не делают. Правда, чуть раньше заслуги профессора Арнольда Смеяновича в родной Беларуси были признаны. В 1994 году он стал лауреатом Государственной премии республики.

Стоит отметить, что белорусскую школу нейрохирургии знают хорошо во всем мире. Сегодня к работе минских ученых ведущие западные нейрохирурги проявляют повышенный интерес. В прошлом году Арнольд Смеянович и кандидаты медицинских наук Игорь Любищев и Юрий Шанько выступали с докладами на 11-м Всемирном конгрессе нейрохирургов в Амстердаме. В марте этого года по приглашению бельгийских коллег белорусские нейрохирурги принимали участие в Европейском конгрессе по нейрореанимации, который проходил в Бельгии.

К сожалению, для более широкого применения разработанных в нейрохирургическом отделе института методов лечения не хватает средств. Как, впрочем, и на нужды всей отечественной медицины. Но это уже другая тема. Невеселая. А рассказывая об успехах белорусских нейрохирургов, не хочется говорить о грустном...

**Мария ЭЙСМОНТ.**



*Идет операция.*



*Врачи нейрохирургического отдела на обходе. Первый слева Арнольд Федорович Смеянович.*

## Начлег у машыне прывёў да непрыемнасцей

У чатыры гадзіны раніцы ў Полацкі ГУУС звярнуўся перапалоханы рабочы аднаго з мясцовых заводаў. Ён заявіў, што гадзіну таму, калі ён спаў у сваім "жыгулёнку", выкарыстаўшы прыадкрытую фортачку, у салон пранiклi двое маладых хлопцаў. Невядомыя, пагражаючы гаспадару нажом, выштурхнулі яго з машыны, а самі паехалі на ёй у невядомым напрамку. Аднак, як паведамілі БелТА ў прэс-службе МУС, праз некалькі гадзін, дзякуючы аператыўным мерапрыемствам, супрацоўнікі міліцыі затрымалі злодзеяў. Імі аказаліся непрацуючыя з Полацка і гарадскога пасёлка Расоны. А ўкрадзены аўтамабіль быў знойдзены ў пасёлку Ветрына Полацкага раёна. Вядзецца следства.

## Вымагальнікам пажывіцца не ўдалося

У ноч на 27 ліпеня на аўтазаправачнай станцыі паблізу вёскі Вароны Віцебскай вобласці адбыўся інцыдэнт, які прыцягнуў увагу дзяжурнага нарада міліцыі.

Як паведамілі БелТА ў прэс-службе МУС, двое вымагальнікаў, пагражаючы пашкодзіць аўтамабіль, патрабавалі грошы ў жыхара Санкт-Пецярбурга. Супрацоўнікі міліцыі спынілі злачынныя замахі і затрымалі нападаўшых. Адзін з іх аказаўся жыхаром Разанскай вобласці, а другі пражывае ў Віцебску. Вядзецца разбор.

**БелТА.**

З першых вуснаў

*Кася Камоцкая:*

# "Мне надакучыла спяваць песні пратэсту..."

***Яшчэ студэнткай гістарычнага факультэта БДУ Кася любіла спяваць. Уласна, яе творчасць і пачалася з універсітэта. І менавіта ў жанры аўтарскай песні. Пазней ужо, на мяжы 90-х, энергічная і прадпрымальная, яна пачала збіраць музычную каманду. Так у 1991-м узнік гурт "Новае неба".***

***Сёння гэта ўжо з'ява ў неафіцыйнай беларускай культуры. І на фоне гурта зусім не губляецца яркая індывідуальнасць самой Касі. І яна, і яе калегі ў поўнай адпаведнасці з назвай гурта раз-пораз здзіўляюць слухача новымі фарбамі творчасці.***

**— Кася, з чаго пачынаецца твой дзень?**

— Найперш, з кавы. Я па натуры "сава", таму, натуральна, не люблю рана прачынацца. Магу правaляцца амаль увесь дзень у ложку. А каб больш-менш растрэсціся пасля сну, кубачак кавы мне проста неабходны.

**— А якое яно ўвогуле, жыццё музыканта?**

— Звычайнае. Проста існуюць у грамадстве стэрэатыпы, што спевакі ледзь ці не іншапланецяне. На самой справе, я такі ж чалавек, як і іншыя. Я таксама мару, кахаю, думаю...

**— І аб чым ты зараз думаеш?**

— Думаю, каб з'ехаць кудынебудзь крыху адпачыць. Можа, на Блакітныя азёры, падумаць над новымі песнямі, напісаць штосьці.

**— Ты цікавішся палітыкай?**

— Не-а. Удзелу ў грамадска-палітычных падзеях краіны не прымаю. Ад палітычных газет і тэленавін таксама не фанацею. Хаця, безумоўна, лёс Беларусі мяне хвалюе. Ды і як можна жыць у краіне і не думаць, што з ёй будзе?

**— А як жа твая палітызаваная песенька "Прэзідэнт, ідзі дамоў!"?**

— Ведаеш, гэта песня — проста эмацыянальны ўсплёск. Яна была напісана на наступны дзень пасля абвяшчэння вынікаў рэферэндуму, што ўздымаў пытанне аб статусе мовы і дзяржсімволікі. Мне стала, калі шчыра, проста агідна, што над краінай будзе лунаць гэты чырвона-зялёны сцяг. Ды проста і з эстэтычнага пункту гледжання спалучэнне белага і чырвонага вельмі прыгожае. Я ўжо маўчу пра гістарычныя аспекты.

Колькі я ні была ў свеце, я нідзе не бачыла такога прыгожага сцяга, як наш нацыянальны бел-чырвона-белы.

**— За мяжу часта ездзіш?**

— Адносна. Але калі шчыра, у Беларусі мне выступаць значна лягчэй. Тыя, што прыходзяць на мае канцэрты тут, вельмі ўдзячныя слухачы. Не, удзячныя — не вельмі ўдалае слова. Хутчэй, у нас з імі без слоў ствараецца нейкая цёплая атмасфера ўзаемаразумення, нейкае добраспрыяльнае біяполе, якое мяне разнявольвае. Я адчуваю сябе на сцэне проста і лёгка.

А вось за мяжой неяк не так. Безумоўна, публіка там таксама ўдзячная. Але ўсё роўна нешта не тое. Можа, таму, што мая творчасць разлічана ў першую чаргу на беларускага слухача.

**— З кім з айчынных бардаў падтрымліваеш сяброўскія адносіны?**

— У прынцыпе, з многімі. Ну, самыя цесныя, хутчэй, з гуртамі "Крыві" і "Уліс".

**— Як ты думаеш, ты дасягнула той славы, таго прызнання, якіх жадала?**

— А я і не ставіла прад сабой такой мэты. Я нічога не збіралася дамагацца. Ні слава, ні ўсеагульнае прызнанне мне не патрэбны. Прыемна, канешне, што мае песні слухаюць, мае канцэрты наведваюць. Гэта таксама нешта значыць...

**— Што збіраешся рабіць у бліжэйшы час?**

— Як я ўжо казала, хачу з'ездзіць адпачыць: там падумаць над новымі песнямі. Мне надакучыла спяваць песні пратэсту. Хачу, каб у маіх новых было болей пачуццяў.

**— Што, на рамантыку пацягнула?**

— Не ў гэтым справа. Я наогул не лічу сябе рамантыкам. Можа, таму, што я не сентыментальная.

Так што рамантыка рамантыкай, але на тое наша "Неба" і новае, каб увесь час змяняцца.

**Гутарыла Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

Здарэнні

# Згарэлі, "абмыўшы" пакупку аўтамашыны

Першапачатковая радасць ад толькі што купленай аўтамашыны абярнулася вялікай бядой у адной з вёсак Бешанковіцкага раёна. Сюды да свайго 42-гадовага дзядзькі, нежанатага трактарыста саўгаса, прыехаў з добрай навіной ягоны 28-гадовы пляменнік з Віцебска. За ўрачыстым сталом доўга падымалі чаркі з нагоды ўдалай пакупкі і на добрым падпітку ляглі спаць, кінуўшы на падлогу непатушаную цыгарэту. Ад яе, мяркуючы па ўсім, у дзве гадзіны ночы ўспыхнуў пажар, які поўнасцю спаліў хату, лазню і хлеў, а самае страшнае — прывёў да гібелі абодвух яшчэ маладых людзей.

Між тым пажаранебяспечная абстаноўка застаецца ў вобласці стабільна трывожнай на ўзроўні папярэдняга года. За гэты час на Віцебшчыне адбылося сёлета ўжо 786 пажараў, у агні якіх загінула 67 грамадзян, столькі ахвяр было і летась. Вось толькі адчувальна вырас матэрыяльны ўрон ад гэтых бедстваў, які пакуль складае 43,9 мільярда рублёў.

**Уладзімір ШЫК.**

# Начныя выстралы

У ноч з 26 на 27 ліпеня ў вёсцы Грандзічы Гродзенскага раёна здарылася трагедыя — быў забіты мясцовы жыхар. Як інфармавалі карэспандэнта БелТА ў Гродзенскім РАУС, каля двух гадзін у аддзел паступіў тэлефонны званок.

Паведамілі, што ў аднаго з жыхароў вёскі невядомы спрабуе ўкрасці шыфер. На месца здарэння тэрмінова выехаў нарад з двух аператыўнікаў. Улічваючы, што аддегласць ад вёскі, а яна знаходзіцца па сутнасці ў прыгараднай частцы Гродна, невялікая, нарад прыбыў за некалькі мінут. Калі злодзей пачаў уцякаць, адзін з міліцыянераў (другі ў гэты час аглядаў месца здарэння) зрабіў некалькі папераджальных выстралаў уверх. Аднак уцякач не спыніўся, а паспрабаваў схавацца за адным з будынкаў. Пасля таго, як міліцыянер яго дагнаў, той, працягваючы супраціўляцца, хацеў завалодаць яго пісталетам. І супрацоўнік міліцыі вымушаны быў прымяніць зброю.

Па факце забойства ўзбуджана крымінальная справа, пракуратурай Гродзенскага раёна праводзіцца расследаванне.

**Гродзенскі раён.**
**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ,**
**БелТА.**

І смешнае, і грэшнае

# "Жменька" вясковага гумару

### Юны сіноптык

Сядзяць на ганку Янка з жонкай. Пасяродку — іхні трохгадовы сынок. Малы раз-пораз паглядае на неба, а потым кажа:

— Во, ё... тваю м... Зноў дождж збіраецца...

Янка рагоча, а жонка глядзіць на мужа і круціць пальцам ля скроні.

### Загадка

Янка пытаецца ў суседкі:

— Чаму гэта твой, едучы на работу, вадой запасаецца?

— Цяпер на спіртзаводзе нейкую новую лінію пракладваюць. Кажа, далекавата ад самога завода, за вадой не находзішся. Няўжо ім туды на будоўлю вады не прывозяць?

### Прадбачлівы злодзей

Следчы пытаецца ў арыштанта:

— Ты што яшчэ ўкраў, акрамя самагонкі?

— Закуску.

— Якую такую закуску?

— Сала.

### Радня

Янка свайму напарніку:

— Ты чаго гэта нашага старшыню калгаса "бацькам" называеш?

— Ну а як жа? Усёж-такі калгасам кіруе...

— Вось дзівак-чалавек... Ды ён табе такі бацька, як мая цялушка тваёй свінні пляменніца.

### Аргумент

Сусед пытаецца ў Янкі:

— Ты за каго галасаваў?

— За апазіцыю...

— Чаму?

— А таму, што каб не апазіцыя, то гэтыя б... такога б натваралі...

### Самагонка і траціл

Сусед раніцой заходзіць да Янкі і просіць:

— Налі, браток, шкляначку. Гэта ж учора Іванаўне бульбу абганяў, то апасля начаставала нейкай трасцай, што сёння ледзь жывот не разрывае.

— Во, б... Пэўне, шашку траціла ў брагу ўкінула, каб мацнейшая была, — з веданнем справы разважаў Янка. — Я дык серную кіслату дадаю ў такіх выпадках. Нейтралізуе ўсякія выбуховыя рэчы. Праўда, і чалавеку не паздаровіцца, але затое застанецца жыць...

### Пашкадавала

Неяк восеньскім надвячоркам Янкава жонка заўважыла ля свайго плятня п'янага мужчыну, які хістаўся-хістаўся і ўпаў. Маладзіца пашкадавала п'яніцу, пайшла ў хату і вярнулася з коўдрай, накрыла небараку, каб не змерз, а потым зняла з сябе яшчэ новую ватоўку, паклала пад галаву.

— Раніцой, пэўне, вынесла пахмяліцца, — буркнуў Янка, слухаючы жончыны байкі.

— Ды не. Раніцой яго і след прастыў.

— І падзякаваць не зайшоў?

— Ды дзе там. Яшчэ і коўдру з ватоўкаю забраў.

Янка трохі пасядзеў, потым моўчкі зняў папругу і апасля было чуваць, як у Янкавай хаце дужа лямантавала гаспадыня.

### Адзінае выйсце

Янка пытаецца ў суседа:

— Скажы, Кастусь, а калі б табе плацілі па тры тысячы даляраў у месяц, ці краў бы ты?

— Пытаеш... Канешне, краў бы. А ты памяркуй сам: гэтыя даляры аддасі жонцы, а яна, ваўчыца, ні цэнта табе на выпіўку не дасць. Які выхад? Красці. А за што ж я шкляначку сівухі прапушчу?

### Апраўданне

Янка папракае суседа:

— Што ж ты, браток, ужо тры разы абяцаў, што маю бульбу абгоніш, але бачу, што і сёння не збіраешся.

— Ой, даражэнькі ты мой суседзе, — апраўдваўся той. — Ты вось бачыў, што кот, можа, разоў пяць на дзень морду лапай мые, то гэта ж яшчэ не значыць, што да цябе пяць раз госці завітаюць.

### Пярына для "пана"

Янка заўважыў, што суседка носіць кошыкам апілкі ў хлеў. Пытаецца:

— Дануся, ты ж карову прадала, то навошта табе апілкі ў хлеве?

— А я свайму "пану" пасцель новую раблю. Як нап'ецца, то тады ў хату баіцца ісці, а кладзецца ў хлеве на брыкет. Апасля брыкет кепска гарыць. А цяпер я рашыла так: няхай спіць на апілках, як пан. І брыкет будзе добра гарэць, і апілкі пойдуць па прызначэнні.

— Ты б, можа, на памперсы яму раскашэлілася. Памяркуй: трайная выгада. Сам будзе ў парадку, брыкет добра будзе гарэць і апілкі ацалеюць: можа, яшчэ карову купіш.

### Прэмія

Янкаў сусед прыйшоў дамоў апоўначы п'яны, як цэп. Раніцой Янка пытаецца ў яго:

— Ці слухаў ты сёння радыё?

— Не. А што?

— Гаварылі, што ваша брыгада ўчора ўстанавіла сусветны рэкорд, працуючы з раніцы да апоўначы.

— І ўсё? А не гаварылі пра тое, што прараб наш прэмію нам выдаў? Гэта ж трэба, кожнаму па бутэльцы гарэлкі паставіў!

— За што ж гэта?

— А за тое, што мы пасля абеда да апоўначы яму катэдж да ладу давадзілі. Казаў яшчэ, што і нарад на асноўнай рабоце добра закрые.

### Выгадная праца

Неяк Янка пытаецца ў сваёй бабулі:

— Скажы, бабулька, калі было лепей працаваць: як жылі аднаасобна ці ў калгасе?

— Пэўне, што ў калгасе, Яначак.

— Чаму?

— А таму, што ў калгасе ўсе робяць гуртам, тут ёсць за каго схавацца. А калі рабілі аднаасобна, то, бывала, калі падлянуешся, то бацька і пугаўём перахрысціць.

### Дапёк

Каля аўталаўкі з-за нечага паспрачаліся Янка з Юзікам. Нешта адно аднаму даказвалі. А потым Янка не стрымаўся і выпаліў тое, што, на яго думку, ямчэй дапячэ субяседніка:

— Чаго ты на мяне вызверыўся, як Лукашэнка на апазіцыю?!

Субяседнік, было відаць, застаўся задаволены такім параўнаннем.

### Сямейны сакрэт

Прыбягае раніцой да Янкі сусед:

— Пахмялі, браток! Нутро пераграецца.

Той наліў. Сусед прагна выпіў вадкасць, падзякаваў і папрасіў:

— Ты ж толькі маёй не прагаварыся...

Праз паўгадзіны прыбягае жонка таго ж суседа.

— Яначак, ратуй! Ну, гэтак дрэнна...

Янка зноў наліў.

Дзякуючы і развітваючыся, суседка тузанула Янку за рукаў і ціха, быццам яе мог нехта падслухаць, сказала:

— Ты ж, крый Божа, майму пра гэта не раскажы...

### Карысная прапанова

На калгасным сходзе выступае загадчык жывёлагадоўчай фермы і ўносіць прапанову:

— Каб дасягнуць высокіх надояў, трэба ўдвая павялічыць норму выдачы камбікорму.

— Ды і так даём поўную норму, — папраўляе яго старшыня калгаса.

— Правільна, — пагаджаецца загадчык фермы. — Але гэта норма для кароў. А трэба яшчэ паклапаціцца, каб і для жывёлаводаў заставалася па аднаму-два вядры.

Сход падтрымаў карысную прапанову.

### Вялікі пост

Янка трапіў у бальніцу: грыжа замучыла. Напярэдадні медсястра загадала Янку пагаліць тое месца, ля якога будуць аперыраваць. Янка, уздыхнуўшы, пагадзіўся і неўзабаве прыняўся за работу. Чулі супалатнікі, як ён раз-пораз прыгаворваў за перагародкай курылкі:

— Гэта ж трэба! Цяпер і ў госці ні да якой маладзіцы не сходзіш. Пакуль адрасце, лічы, што месяцы са два прыйдзецца папоставаць.

**Васіль ГРОДНІКАЎ,**
**в.Мазалі Маладзечанскага раёна.**

Народная Воля
30 ЛІПЕНЯ 1998 г.

Погляд

# Калгаснік-"пагектарнік" — падножка кволаму фермерству

У вёсцы, дзе прайшло маё дзяцінства, усяго дваццаць шэсць двароў было напрыканцы 30-х гадоў. Калектывізацыя ў ёй прайшла паспяхова пасля таго, як з мэтай запалохвання селяніна актывісты-сельсаветчыкі раскулачылі і выслалі на Поўнач, у тайгу за Котлас, шэсць сем'яў. Найбольш старанных, ініцыятыўных і працавітых. Па ўспамінах старажылаў — сведкаў таго насілля — ніхто з вяскоўцаў нават не прыйшоў развітацца з "кулакамі" — баяліся, каб не залічылі ў "падкулачнікі". А каб страх замацаваць канчаткова і каб калгаснік цягнуў лямку і далей моўчкі, у 1935 годзе з вёскі на Поўнач адправілі з "падачы" НКУС яшчэ дзве сям'і, ужо калгасніцкія. Проста нехта палічыў іх палітычна "неблаганадзейнымі". Увогуле ад бальшавіцкага насілля пацярпела ў вёсцы кожная трэцяя сям'я, а з улікам таго, што ў 1937 годзе НКУС узяў і адправіў у ГУЛАГ яшчэ трох мужчын — то амаль кожная другая. Пасля такой "зачысткі" астатнія мае вяскоўцы пакорліва неслі ярмо калгасных парабкаў і працавалі за працадзень-палачку.

Пасля вайны мужчыны, хто вярнуўся з арміі дамоў, цішком пагаворвалі, быццам чулі ад франтавікоў, што сам маршал Жукаў абяцаў пасля Перамогі вярнуць зямлю сялянам у прыватную ўласнасць. Цешыў сябе такой надзеяй і мой бацька, які ў 20-я гады зведаў радасць быць гаспадаром сваёй паўвалокі зямлі.

Але век гэтай птушкі-надзеі быў кароткім — калгасы і саўгасы ацалелі, а калі працу вяскоўцаў сталі аплачваць грашыма, то ўжо ў пачатку 70-х гадоў калгаснік канчаткова страціў цікавасць да "сваёй" зямлі — яго задавальняў прысядзібны надзел у 30 сотак. З гадамі вытравілася жаданне не толькі стаць багатым — проста вольным гаспадаром на сваёй зямлі. Склаўся цэлы сацыяльны пласт такіх, хто быў рады чарцы і шкварцы, магчымасці сёе-тое сцібрыць з калгаснага палетку — і болей нічога. Для многіх стала зручней цягнуць калгасную лямку, чым праяўляць ініцыятыву. Таму, калі ў гады перабудовы і "адлігі" ў рэспубліцы пачалі падаваць голас першыя фермеры, на іх глядзелі, як на "чужых", дзівакоў. На Случчыне, дзе ў 20-я гады ў вёсцы за часы нэпа склаўся даволі значны пласт старанных, працавітых сялян-серадняк оў, хто ўжо карміў не толькі сябе, сваю сям'ю, але і ўносіў важкі ўклад у дзяржаўны засек, налічваецца усяго... 14 фермераў, два гады таму было 18. Сёлета ніхто з 10 тысяч сялянскіх двароў не падаў у райвыканкам заяву на атрыманне зямлі для вядзення фермерскай гаспадаркі.

Праўда, у шэрагу калгасаў рысшырылі памер прысядзібных участкаў да аднаго гектара: 30—40 сотак — пры доме, астатнія — у полі. Адным з першых такі "смелы" крок зрабілі ў калгасе імя Тэльмана. Тут за гектар зямлі прагаласавалі ўсе 459 двароў! Па 30—40 сотак пры доме пакінулі толькі тым, хто ніколі не працаваў у калгасе — такіх набралася ўсяго 15 чалавек.

Кіраўнікі калгаса і выканкам мясцовага сельсавета праявілі пэўную мудрасць і не ўзвалілі тыя "палявыя" паі на шыю сяльчан, большасць якіх сёння — пенсіянеры. Апрацоўку зямлі ўзяў на сябе калгас. Разлік з уладальнікамі дадатковых сотак склаўся на пэўных рынкавых адносінах: усякая праца з пэўнымі матэрыяльнымі затратамі павінна аплачвацца. Напрыклад, за пасадку, апрацоўку плошчаў і ўборку ўраджаю бульбы на 20 сотках (насенне — іх гаспадара) трэба папярэдне ўнесці ў калгасную касу 600 тысяч рублёў. Угнаенні, пестыцыды — калгасныя. Вырошчванне і ўборка 40 сотак збожжавых (часцей — ячмень) абыходзіцца ў мільён рублёў. Плюс 470 тысяч — падатак на зямлю. Калі я пацікавіўся ў знаёмага настаўніка-пенсіянера, які таксама мае свой "пай" у полі, ці выгадна яму такая кааперацыя з калгасам, ён адказаў станоўча. Маўляў, летась, калі год быў не надта спрыяльны для ўраджаю збожжавых і бульбы, яму прывезлі звыш адной тоны ячменю і дзве з лішнім тоны бульбы — прама ў двор. Слоў няма, такая форма ўзаемаразліку з калгасам за працу на "сваёй" дзялянцы найбольш выгадная пенсіянерам, хто ўжо падчас не ў сілах гнуцца на зямлі-карміцельцы. Хоць ім хапае клопатаў і на прысядзібных участках ва ўмовах, калі на ўвесь калгас ёсць мо пятнаццаць рабочых коней, астатнія — маладняк, які няма каму прывучаць да працы, павозкі, і яго здаюць на мяса — яно добра аплачваецца.

На думку старшыні Паўстынскага сельсавета Ніны Міснік, расшырэнне прысядзібных участкаў прывяло да росту пагалоўя кароў на падворку. Калі чатыры гады таму іх было 212, то цяпер — 271, у 24-х дварах трымаюць па дзве каровы.

Гэтаму спрыяюць і меры матэрыяльнага заахвочвання па частцы забеспячэння падворкаў кармамі. За продаж калгасу тоны малака выдаецца бясплатна 500 кілаграмаў сена, яшчэ столькі — за здадзенае на ферму цялё, плюс паўтары тоны — на карову. Зацюкаванага, з дастаўкай у двор, толькі кошт цэкавальнага шпагату вылічваецца з заробку калгасніка.

Радавацца б тут, пляскаць у ладкі, ды, калі зірнуць глыбей пад пласт вясковага жыцця, нешта не хочацца. Бо калі паглядзець на "пагектарную" сістэму прывязвання калгасніка да зямлі, то яна ў пэўнай меры ўяўляецца свайго роду падножкай кволаму фермерству. Пры ўмове, калі калгас бярэ пад сваё "крысо" палявыя "паі", пазбавіўшы тым самым вяскоўцаў ад усякіх клопатаў, сярод іх замацоўваюцца ўтрыманцкія настроі, чалавек прывыкае спадзявацца на "добрага" дзядзьку. Якое ўжо тут можа прарасці жаданне стаць вольным на сваёй зямлі! Вырашчанага і сабранага калгаснымі механізатарамі ўраджаю ўладальніку таго "пая" хапае і для сябе, і для сваіх гарадскіх дзяцей, унукаў. Хто мае магчымасць — рэшту вывозіць на базар.

Таму і не прыжыліся ў раёне ні арэндны, ні сямейны падрады, аб якіх у свой час нямала пісалі газеты. Калгасная сістэма за семдзесят гадоў выхавала не адно пакаленне людзей, далёкіх ад фермерства, згодных лепей заставацца ў калгасе падзёншчыкамі, чым забіваць галаву клопатамі аб "сваёй" зямлі, аб якой так марыў калісьці Міхал з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля".

**Міхась ТЫЧЫНА.**

*г.Слуцк.*

Плодородие

# Разбросать измельченную солому по полю во время уборки — означает быть с урожаем по-американски. На следующий год

*Девиз метода: "Солому — в почву. И культивировать пары!"*

При нормально отлаженной кормовой базе она становится ненужной. Ведь питательная ценность соломы близка к нулю, она нужна разве что на подстилку скоту. Но в хозяйствах страны заготавливали солому полностью, отряжали на это в пик страды десятки людей и механизмов, сжигали массу горючего. И вставали на краях полей огромные скирды соломы памятниками бесхозяйственности. Они стояли порой по нескольку лет, занимали много места и в конце концов их просто сжигали. А ведь солома — прекрасная органика. При добавлении небольшого количества азота она работает, как хороший навоз.

Среди подобных технологических глупостей можно назвать двухфазную уборку зерновых (когда поля утюжили комбайнами дважды — сначала для скашивания хлебостоя в валки, а потом для обмолота), сушку зерна с использованием топочного газа, при котором сжигалось много горючего, а зерно получалось ни на что не годным, зато по себестоимости золотым. И многое другое.

Такие примеры подтолкнули нас к мысли: а если сравнить, как все это делается у американских фермеров? Изучили серию очерков старейшего фермера Ральфа Далла, который не раз посещал бывший СССР. И советы из-за океана были услышаны!

Вспоминаю посещение фермерского хозяйства Владимира Пиканова. Он дооборудовал свой комбайн измельчителем, убрал ячмень и пшеницу напрямую (без скашивания в валки) и разбросал измельченную солому по полю. "Во время уборки ко мне приезжало все районное начальство, много друзей-фермеров, — рассказывал Владимир, — и все крутили пальцем у виска — что же ты делаешь? А я всем показывал статью Далла — вот, учусь у американцев".

В тот год Пиканов первым в районе закончил уборку, получил самое качественное зерно и хорошо заработал на нем. Удобренная соломой почва на глазах стала набирать плодородие. А те, кто работал по старинке, провозились с уборкой до холодов, у многих зерно в валках отсырело и потеряло качество. После этого случая к Пиканову всю зиму ездили в гости друзья-фермеры — за наукой.

Подобных случаев немало, когда фермеры, узнав об американском технологическом (читайте: новом) опыте, отвергали прежние затратные и неэффективные технологии, возвращались к здравому смыслу. Это, например, Виктор Быков, который на западный манер стал сушить зерно путем вентиляции обычным, а не подогретым воздухом, экономя на сушке много денег и получая качественное зерно. Это Константин Назаров, Иван Гресев и другие фермеры, которые отказались от ежегодной вспашки и обработки посевов гербицидами. Перейдя на "почвощадящие" орудия, они стали вносить всю солому в почву и тщательно культивировать пары. Сейчас без больших затрат там получают прекрасное сильное зерно с высокой клейковиной, урожаи по 30—40 ц/га каждый сезон.

Хочется обратиться к каждому, избравшему верный путь — фермерский: думай о том, что ты делаешь на земле и с землей. Тебе на ней жить, растить детей и внуков. Думай о соседях — и с ними тоже нужно жить. Продумывай свой бизнес как можно тщательнее — ты можешь выиграть там, где и не ожидал.

Рациональное мышление утверждается в головах и делах крестьян. Фермерство начало свое триумфальное шествие в годы перестройки, когда в городах было невозможно купить качественные овощи даже в разгар сезона, а само слово фермер было чуть ли не под запретом...

Я не сказал еще ни слова о садоводах, дачниках и огородниках, ибо уверен: читателям под силу значительно дополнить мои заметки и поделиться с коллегами своим опытом преодоления косности, обретения гармонии с Природой и свободы в труде на своей земле.

**Виктор ПИНЕГИН.**

Метамарфозы

# Каб не хадзіць на паклон да "пана"-старшыні, слуцкія фермеры набываюць камбайны. Сітуацыя можа змяніцца. І ў хуткім часе старшыні вымушаны будуць ісці да іх...

Жніво — напружаная, гарачая пара ў вёсцы: час уборкі збожжавых. У фермераў — тым болей, бо рэдка хто з іх мае ўласны збожжаўборачны камбайн, а таму ідзе чалавек на паклон да старшыні калгаса. У таго пазіцыя ўжо вызначана наперад: спярша ўбяру калгасныя палеткі, а потым можаш прыходзіць па камбайн. У бедалагі-фермера ажно крывяны ціск падскоквае. Яшчэ як! Асыпаецца пераспелы колас, а тут хоць сярпы іржавыя на гарышчы адшуквай і кліч дальнюю і бліжнюю радню на жніво — уручную.

Зведала не раз такія перажыванні і фермерша з вёскі Сорагі Слуцкага раёна Ліна Шуба. А сёлета, нарэшце, аблвыканкам даў ёй магчымасць узяць на пяць гадоў 230 мільёнаў рублёў беспрацэнтнага крэдыту. За гэтыя грошы Ліна Дзмітрыеўна купіла ў прыгарадным калгасе "Ленінскі шлях" камбайн "Ніва". Не новы, вядома, але яшчэ, як кажуць, на хаду, у адных руках паслужыць на збожжавай ніве не адзін год.

За такія ж крэдыты набылі збожжавыя камбайны ў мясцовых калгасах фермеры Юрый Даманскі з вёскі Знамя і Уладзімір Грэскі з Чаплічаў.

У астатніх 11 фермераў такое жаданне пакуль не "прарэзалася", таму што зямельныя надзелы яны маюць невялікія. Яны, мусіць, баяцца, што не разлічацца за пяць гадоў з крэдытам.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

г.Слуцк.

Калі ласка...

## І я хачу ператварыць надзел у вузкія лехі

Шаноўная рэдакцыя "Народнай волі" і спецвыпуска "Фермер"!

У Вашай вельмі праўдзівай і патрэбнай газеце апошнім часам расказваецца аб вузкіх лехах Мітлайдэра.

Напэўна, пра метад гэты вельмі добра вядома ў Амерыцы, але ў нас пра яго літаратуры няма. Ці не магла б газета пра яго паведаць больш падрабязна, бо шырокаму колу землекарыстальнікаў ён мала вядомы. Такім чынам пашырылася б кола і прыхільнікаў вядомага метаду, і падпісчыкаў газеты.

Калі ласка, раскажыце пра "вузкія лехі Мітлайдэра", як яны робяцца і як на іх вырошчваць агародніну?

**Янка БУРАК.**

Мінскі раён.

Расскажи, газета

*В спецвыпуске "Фермер" Вы часто рассказываете о преимуществах обработки земли по методу Джейкоба Митлайдера. Мы с мужем оба строители с высшим образованием, оба работаем, но вынуждены заниматься земледелием на своей даче, чтобы хоть немного улучшить свое материальное положение. Поэтому нас очень заинтересовал метод узких гряд.*

*Мы не можем уделять своему огороду много времени, работаем на участке только в выходные дни. И поэтому узкие грядки наилучшим образом подошли бы нам.*

*Приобрести же литературу, даже на английском, с подробным описанием метода Дж.Митлайдера возможности нет. Вот мы и обращаемся с просьбой к Вам, редакция, почаще рассказывайте о технологии возделывания сельскохозяйственных культур по прогрессивным методам, в том числе и методу Джейкоба Митлайдера.*

*С уважением*

**Елена ЗЕЗЮШКО.**
Полоцкий район.

# В чем основные особенности метода Митлайдера?

О знаменитом американском "садовом докторе" и его методе выращивания овощей рассказано в главной книге самого Джейкоба Митлайдера "Больше продукции с вашего участка".

Овощи выращивают на грядах шириной 45 см, разделенных широкими промежутками — от 60 см до 1 м. Гряды находятся на одном уровне с проходами и отделены от них только земляными бортиками.

Почву заправляют двумя смесями минеральных удобрений (смесью №1 и смесью №2), вегетирующие растения подкармливают смесью №2. Разовая доза подкормки и интервалы между подкормками одинаковы для всех культур, но разным культурам дают разное число подкормок.

А еще метод включает простые и нетрудоемкие приемы для борьбы с сорняками. Посмотрите на фото. Вы видите огород с узкими грядами в июне, когда большинство растений еще маленькие, а потому четко видны элементы технологии. Все растения здоровые, жизнеспособные. Вид огорода очень привлекателен, но необычен.

Стоп-кадр

Вот такие удивительные поделки собирает из спичек, соединяя их без клея и ниток, Степан Степанович Стасюк, который живет в деревне Луково Малоритского района. На один такой дворец у него уходит до тысячи коробков спичек.

**Фото Романа КОБЯКА, БелТА.**

Полезные советы

## ...И ведро без донышка сгодится

Старые ведра без дна я не выбрасываю. Весной, когда высаживаю георгины, побеги накрываю ведром, дном вверх. Их легче укрывать от заморозков. А когда побеги подрастают, вылезают из ведра и разрастаются, то им не нужны никакие подпорки. Они просто не разваливаются, и корням тепло. Ведра от солнышка нагреваются, кусты растут пышными, стебли становятся теплыми, цветки крупными, такие же подпорки я делаю для мальвы.

**Тамара КАРАЧИНЦЕВА.**

Резонанс

# Быть хозяином, а не арендатором

Уважаемая редакция!

Внимательно прочел статью Михаила Пашука "Я против уродливого фермерства...". Проблемы, поднятые М.Пашуком, меня взволновали, заставили призадуматься и поразмышлять на эту злободневную тему.

Так, в справочном пособии фермера читаю: "Фермер — собственник средств производства, включая землю и получаемую продукцию. Законодательно наделен правом владения землей, полного распоряжения производимой продукцией".

Я считаю, что наш белорусский "фермер" (!) не является собственником земли. Он, как показала жизнь, становится только арендатором, который никакого права на нее не имеет. А вручаемый ему "Акт на право пожизненного владения землей" — это документ-фикция, который неплохо оформлен и стоит больших денег. Но... который в любой момент могут отнять, придумав очередную перерегистрацию или утвердив новый генеральный план застройки.

В газете "Народная воля" в спецвыпуске "Фермер" печатается очень много полезных советов. Но отображающую нашу действительность страничку стоило, скорее, назвать "Арендатор". Это больше соответствовало бы нашей белорусской действительности, отношению государства к фермерству как таковому. Да, М.Пашук выступил, скорее, против "уродливого" арендаторства. Не случайно он увидел в колхозной системе, которая "продемонстрировала хорошую форму организации сельскохозяйственного производства и ненормальные производственные отношения", основное противоречие: старая система делила людей на барина и крепостных (колхозников). Между работающими всегда существуют производственные отношения, основой которых является собственность на средства производства. Заметим, что при колхозной собственности устанавливаются отношения господства и подчинения, а не сотрудничества и взаимопомощи, как нам вбивали в головы со школьной скамьи.

И Михаил Пашук также говорит об уроках, которые пришлось извлечь из первых лет развития "фермерства". Оказывается, индивидуальные хозяйства с неподготовленным персоналом и набором необслуженной как следует техники, с выделением угодий в 15—20 га уродливы и по форме, и по содержанию, а главное — экономически невыгодны. Но так ли? О чем говорит европейский опыт?

На 25-й странице того же "Справочного пособия фермера" отмечается, что на юге Европы мелких ферм значительно больше, чем на севере. Фермы размером до 5 га в ФРГ имели 33,4% всех сельскохозяйственных производителей, во Франции — 24,9%, в Италии — 77,9%, в Греции — 77,5%, в Бельгии — 39,3%, в Нидерландах — 32,6%. Для скандинавских стран также характерно более мелкое землепользование. В Финляндии на фермы площадью до 5 га приходится 29% и свыше 50 га — только 2%.

И никто не говорит о каких-то уродливых формах.

Михаил Пашук ставит ребром вопрос о "переходном периоде": "Как реформировать колхоз и вырастить хозяина?". Он предлагает разделить колхоз на условных владельцев, основные средства оценивать на конкурсной основе, создав условные индивидуальные хозяйства на зернопотоке, ферме, пилораме, в мастерской, которым эти средства передаются по договору.

Трактора и автомобили "условные хозяйства" также получают в пользование с последующим выкупом.

Но самое главное, чего не сказал М.Пашук: сколько будет стоить техника, износ которой на сегодняшний день составляет около 70%?

Новая техника в колхозы в последние годы не поступает: нечем платить. На конкурс будет выставляться... разве что металлолом, а "условных владельцев" наберется очень много и больше, чем работающих. Пожалуй, трудно будет найти желающих работать "на дядю".

Как тут не вспомнить слова Н.А.Некрасова: "Вместо цепей крепостных люди придумают много иных...".

Щедрая душа бывшего председателя готова дать... около 3 тонн зерна каждому крестьянскому двору для "старта фермерства".

Он, Пашук, предполагает, что в каждом дворе будут растить по 10 голов свиней и получать 100.000.000 рублей дохода и 10 миллионов зарплаты. Так уж и все? И сразу? Не напоминает ли это настоящую маниловщину?!

Приглашаю М.Пашука пройтись по нашим селам: станет ясно, что престарелые люди (а их сейчас большинство в сельской местности) и те из молодежи, кто спился на селе, не будут выращивать по 10 голов свиней. Так что подобными прожектами не решить государственных проблем.

Автор публикации утверждает, что в колхозах пустили под нож почти 50% скота. И чтобы не лишиться поголовья полностью, предлагает передать по договору корову в 500 кг и возвратить за 5 лет 500 кг мяса молодняком. Таким образом сохраним и поголовье, и с мясом да молоком останемся. Но в жизни не так все запросто делается. Она порой преподносит неразрешимые проблемы.

К примеру, в нашем колхозе им.Ульянова Буда-Кошелевского района осталось всего 2 стада по 80—90 коров. Поголовье же одного из них болеет лейкозом, туберкулезом, бруцеллезом и другими заразными болезнями. Думаю, не бросятся сельские жители приобретать таких коров.

Не все гладко получается и с пополнением машинного парка. Нет надобности приобретать технику вообще, если у фермера и земли той всего 4—5 га. Хватит коня или мини-трактора.

А фермерам, у которых по 100 га пашни, безусловно, без богатого набора уборочных и посевных агрегатов, как и "тягла" в виде тракторов и комбайнов, не обойтись. Но и им кооперироваться нужно. А проблему обслуживания машин лучше решать на государственном уровне. При этом брать постоянную плату, которая должна составлять не больше 25—30% за весь цикл проводимых сельскохозяйственных работ. Так делается уже в Румынии. И результаты обнадеживают. Почему бы и нам не взглянуть на проблему по-новому?

**Николай МИХАЙЛОВ.**
Буда-Кошелевский район.

Ответственный за выпуск Виктор СВИРКО.

Крыўдна!

# Здаў дзяржаве бульбы з гакам, ды застаўся з "такам",

## альбо Аб блуканнях па пакутах: чаму з фермерамі і разлічваюцца са спазненнем за здадзены ўраджай той жа бульбы, і выдзяляць камбайн для абмалоту збожжавых не спяшаюцца

Крыўдна слухаць, як з высокіх трыбун заяўляюць, што ўраджайнасць зерневых у фермераў ніжэйшая, чым у калгасах і саўгасах. А дзе ж ёй быць вышэйшай, калі, напрыклад, у мінулым годзе ў мяне засталося няжатым 5 га ячменю, у сына — 10, у фермера з суседняга сельсавета — 10 га аўса (гэта што я ведаю). Ды і што з таго, што жнём са снегам. Касой жа не скосіш! А колькі часу затрачваеш на абіванне парогаў розных гаспадарак і ўстаноў, вымальваючы камбайн.

Пасадзіш бульбу, здасі яе дзяржаве, а потым будзеш блукаць па пакутах, пакуль вырвеш за яе грошы. Так, у 1996 годзе здаў я Віцебскай пладоваягаднай базе на 10 млн. руб. з гакам бульбы. Дык грошы вырваў роўна праз год і тыя ж 10 млн. А пры 75%-най інфляцыі гэта значыць, што за "гак" і заплацілі "так", а астатняе скруцілі.

Вырашыў звярнуцца ў абласны гаспадарчы суд. Параіўся з юрыстамі. Не было дагавора. Адны казалі, што гэта не мая віна, была б квітанцыя, і што трэба патрабаваць плату па цане 1997 года. Другія казалі, што па цане 97-га атрымліваецца вялікая сума — ні за што не заплацяць! Трэба толькі розніцу (чытайце — інфляцыйныя страты) патрабаваць (што я і зрабіў) і, маўляў, абавязкова павінны заплаціць. Прэзідэнт жа даў указанне за здачу сельгаспрадукцыі плаціць без затрымак. Іншыя ж, наадварот, казалі, што словы начальства, калі гэта не афіцыйны дакумент, у справу не падшыеш, што гэта пыл у вочы селяніна. А судзіцца з дзяржавай — усё адно, што галавой сцяну прабіваць.

І сапраўды, суд пастанавіў: пратэрміноўку ў выплаце грошай за бульбу лічыць недаказанай, бо адсутнічаў дагавор і не было доказаў, што я грошы патрабаваў (быццам бы я хацеў аддаць "тавар" дарма).

Вядома, з такой пастановай любы фермер не згодзіцца, і я таксама не пагадзіўся. А напісаў заяву на імя старшыні суда, як сказана было ў пастанове. Пасля чаго з суда прыйшла папера, згодна з якой я павінен зноў заплаціць дзяржпошліну і прыслаць копію дакументаў. Адсюль і ўзнікае шэраг пытанняў:

Па-першае, няўжо ў нашай дзяржаве галовы не ведаюць, што робяць іх рукі? Прэзідэнт патрабуе, каб за здадзеную сельгаспрадукцыю плацілі своечасова, а падначаленыя і ў вус не дзьмуць. Прэзідэнт піша ўказ, каб фермеры, як калгасы і саўгасы, аплачвалі за ўгнаенні па формуле: 40+40+20. І гэтага няма. Прыйшло нядаўна ў райсельгасхарч распараджэнне, згодна з якім фермерам можна браць крэдыты на набыццё тэхнікі. Аднак банк аб гэтым таксама "нічога не ведае".

Па-другое, нявыплата інфляцыйных — гэта ж абрабаванне чалавека! А можа, фермер на Беларусі ім і не з'яўляецца, а нагадвае "быдла"? Бо казалі ж мне: "Каб ты не быў фермерам, мы б табе грошы даўно заплацілі!"

Па-трэцяе: а калі фермер чалавек, то ці складае ён частку народа, дзеля якога, па словах СМІ (дзяржаўных), "усё гэта" і робіцца?

**Леанід ПАХОМАЎ.**

# ТЕЛЕПРОГРАММА

## Четверг, 30 июля

**БТ**

**07.00** Доброе утро, Беларусь!
**08.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.40** Новости.
**08.15** "Сегодня с вами...". Доктор психологических наук профессор Яков Коломинский.
**08.55** Потребительская корзина. Социально-экономическая программа.
**09.10** Усадьба. Программа для дачников.
**09.35** Мультиклуб.
**10.05** Дневник Международного фестиваля искусств "Славянский базар в Витебске".
**10.20** Телесериал "Клан" (Франция—Италия). 1-я с.
**11.20** Королевская охота.
**12.00** Гости в дом.
**12.25** Бархатный сезон. Музыкально-развлекательная программа.
**13.15** Х/ф "Петля". 2-я с.
**14.25** Окружающий мир. Социально-экологическая программа.
**15.15** Мультсериал "Д'Артаньгав и три пса" (США). 4-я с.
**15.40** Сериал "Девочка и океан" (Австралия).
**16.05** Д/ф "Оставалась душа его здесь".
**16.30** Концертный сезон. III фестиваль камерной музыки "Музы Несвижа".
**17.00** Интеграция — евростиль. Грани сотрудничества.
**17.30** Судьба моя и надежда. Социальная реабилитация инвалидов.
**18.20** Телесериал "Клан" (Франция—Италия). 1-я с.
**19.20** "Сегодня с вами...". Директор комплекса внешкольной работы "Золак" Ирина Петрович.
**19.55** Белорусский хит-парад.
**20.00** Сделано в Беларуси. Продукция открытого акционерного общества "Мозырьсоль".
**20.15** Криминальная хроника.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.55** Развлекательная программа "Отбой".
**22.15** Х/ф "Анатомия любви" (Польша).
**23.55** Крок-2. Информационно-публицистическая программа для молодежи.
**00.40** Акколада. Музыкально-развлекательная программа.

**ОРТ**

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 00.00** Новости.
**08.15** Сериал "Роксолана — пленница султана".
**09.00** Америка с М.Таратутой.
**09.30** Пока все дома.
**10.20** Домашняя библиотека.
**10.25** Телеигра "Эти забавные животные".
**11.15** Программа "Вместе".
**14.20** Мультсериал "Невероятные приключения Джонни Квеста".
**14.45** Классная компания.
**15.15** Волшебный мир, или Синема.
**15.40** Время любить в сериале "Лето наших надежд".
**16.10** ...До шестнадцати и старше.
**16.30** Вокруг света.
**17.20** Сериал "Роксолана — пленница султана".
**18.05** Час пик.
**18.30** Телеигра "Эти забавные животные".
**19.00** Человек и закон.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.35** Х/ф "Ураган".
**22.55** Баскетбол. Чемпионат мира. Мужчины. Сборная России — сборная Югославии.

**РТР**

**06.30, 10.00, 16.00, 19.00, 22.45** Вести.
**07.00** Дежурная часть.
**07.15** Товары — почтой.
**07.20** Мир здоровья.
**07.30** Деньги.
**07.45** Мультфильм "Волшебное кольцо".
**08.05** Православный календарь.
**08.10** Вовремя.
**08.35** Сам себе режиссер.
**09.05** Сериал "Санта-Барбара".
**10.30** Совершенно секретно.
**13.35** Х/ф "Зеркало для героя". 2-я с.
**14.45** Мультфильм "Приключения Стремянки и Макаронины".
**15.00** "Башня".
**15.30** Сериал "Первые поцелуи".
**16.30** "Славянский базар в Витебске".
**16.45** Кроссворд.
**17.10** Приключенческая драма "Лабиринты и чудовища" (США).
**19.35** Сериал "Санта-Барбара".
**20.35** Сериал "Притворщик".
**21.25, 23.20** "Славянский базар в Витебске". Закрытие Международного фестиваля искусств.
**23.05** Дежурная часть.
**00.25** Подиум д'арт.
**00.55** Мелодрама "Презрение" (Франция).

**КУЛЬТУРА**

**07.05, 13.00, 19.30, 23.00** Новости культуры.
**07.25** Х/ф "Мужской разговор".
**09.00, 11.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** Миф Д.Покровского.
**09.50** Два Владимира в поисках света.
**10.10** Академия спорта.
**10.30** "Океаны времени и любви".
**11.05** Русская усадьба. "Графская славянка".
**11.35** "Искусство эпохи Возрождения".
**12.15** Дуэт из оперы "Иоланта".
**12.30** Правдашняя высота Леонарда Лавлинского.
**13.15** Вместе с Фафалей.
**13.30** "О Михаиле Зощенко".
**14.15** Поговорим о Малом...
**15.05** Мультфильмы "Крот и сны", "Кентервильское привидение", "Улыбка Леонардо да Винчи".
**15.55** "Лукоморье".
**16.15** Живое дерево ремесел.
**16.20** Играет оркестр "Филармония наций".
**16.40** "Время, портреты, судьбы". В.Даль.
**17.05** "2003". К 300-летию Санкт-Петербурга.
**17.10** "Авангрaд".
**17.25** "Мысли о Рихтере". Автор и ведущий А.Золотов. Передача 2-я.
**18.05** Новое кино.
**18.35** "Избранное-2000". Ч. 1-я.
**19.10** Чудо-сказка.
**19.50** "Избранное-2000". Ч. 2-я.
**20.45** После новостей...
**21.05** Х/ф "Преступление и наказание". 1-я с.

**НТВ**

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.10** Сериал "Детектив Нэш Бриджес".
**09.15** Х/ф "Двое под одним зонтом".
**10.45** Мультфильм "Дом, который построил Джек".
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.25** "Старый телевизор" вспоминает: "Противостояние". Ч. 6-я.
**13.15** Сериал "Любовь и тайны Сансет Бич".
**14.00** На Играх доброй воли.
**15.20** "Улица Сезам".
**15.50** Мультфильмы "38 попугаев", "Бабушка удава", "Как лечить удава".
**16.15** Сериал "Война в космосе".
**17.05** Криминал.
**17.15** Впрок.
**17.25** Док. сериал "Криминальная Россия. Современные хроники". "Операция "Шуба".
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Х/ф "Отступник" (США).
**21.50** Сериал "Детектив Нэш Бриджес".
**22.40** Сегоднячко.
**23.15** Х/ф "Комната в городе" (Франция).

**8-й канал**

**18.00** Программа Кеннета Копланда.
**18.30** Для детей "Пострелята".
**18.45** Многосерийный фильм "Игрок".
**20.00** Новости "К-видео".
**20.30** Вечарніца.
**20.45** Сериал "Горец".
**21.45** Музпарад.
**22.00** Х/ф "Идеал".

**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 229-28-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП "Мэджык". Адрас: г. Мінск, вул. В. Харужай, 13. Падпісаны ў друк у 21.00. Фармат А-2. Тыраж: суботні — 61 050, у астатнія дні — 55 000 экз.Заказ № 898